# наша свабода

№15 ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

14 КРАСАВІКА 2000 года ПЯТНІЦА



Адрас: 220123, г.Мінск, а/я 103

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by

http://www.svaboda.com


КОШТ СВАБОДНЫ



стр.2

# «Прынцэса цырка» трапіла за краты

## У Мінску арыштаваная дырэктар Дзяржаўнага цырка Беларусі Таццяна Бандарчук, пра якую кажуць, што яна сваячка аднаго з віцэ-прэм'ераў

**Алесь ПАЎЛОВІЧ**

Паводле папярэдніх дадзеных, дырэктарку падазраюць у выманьванні хабару ад артыстаў цырка. Быццам адзін нават даў паказанні, што Бандарчук прымушала яго «адшпіліць» ёй 4.900 долараў – частку ад заробкаў згодна з кантрактам, які быў заключаны пры яе садзейнічанні. Людзі, якія нядрэнна ведаюць сітуацыю ў нашым цырку, кажуць таксама пра махінацыі з арэнднай платай ад камерсантаў, пра растраты паліва ды іншыя махлярствы. Аднак удакладніць сутнасць прэтэнзіяў міліцыі да дырэктаркі пакуль не ўдаецца – інфармацыя пра яе справу быццам трымаецца ў сакрэце. Прэс-службы МУС і гарадской міліцыі праз дзень пасля затрымання Бандарчук ніякай інфармацыяй пра гэта не валодалі. Адмаўляліся ад удакладненняў і следчыя гарадскога ўпраўлення следчага камітэта. З чаго раптам такая сакрэтнасць у звычайнай справе па падазрэнні ў карупцыі?



Магчыма, гэта тлумачыцца сваяцкімі сувязямі затрыманай ці хаця б чуткамі пра гэтыя сувязі. У цыркавых колах сцвярджаюць, што Таццяна Бандарчук мае пляменніцу замужам за сынам аднаго з віцэ-прэм'ераў, які чакае атрымант пасла. Быццам выключна дзякуючы гэтаму сваяцтву Бандарчук, якая нават не мела цыркавой адукацыі, у 1996 годзе была прызначаная дырэктарам Дзяржаўнага цырка Беларусі. Потым, кажуць людзі, заступніцтва наверсе дапамагло дырэктарцы «прапісаць» на плошчах Дзяржаўнага цырка прыватнае вар'етэ, увесці ў штат сваякоў і з іх дапамогай рабіць яшчэ шмат чаго, што законам забароненае. Цяпер чуткі прыпісваюць нейкаму высокаму апекуну Таццяны Бандарчук ціск на следчых з мэтай зрабіць з карупцыйнай справы звычайны эпізод пра спробу пазычыць 4.900 долараў у небагатага цыркавога артыста. Так гэта ці не – невядома.

Нявысветленых пытанняў у гэтай гісторыі шмат. Але скандальны паварот цыркавой кар'еры Таццяны Бандарчук прадказвалі многія артысты беларускага цырка некалькіх пакаленняў. Тыя, з кім удалося паразмаўляць, згадваюць Таццяну Бандарчук у якасці жонкі і напарніцы вядомага акрабата Генадзя Бандарчука, але не як самадастатковую славутую артыстку. Канешне, адсутнасць вялікіх заслугаў яшчэ не падстава прагназаваць шлях за краты. Але, аказваецца, шмат хто з спецыялістаў цыркавой справы ў 1996 годзе папярэджваў членаў урада, што Бандарчук не адпавядае якасцям, патрэбным пасадзе дырэктара Дзяржаўнага цырка. Не прыслухаліся. Не захацелі прыслухацца ці патрапілі ў палон да прываблівай жанчыны і дазволілі сябе «акруціць»? А магчыма, калі сапраўды гаворка ідзе пра злачынствы, былі «ў долі»? Будзем спадзявацца, следства не абмяжуецца ўвагай да адной Таццяны Бандарчук, а паспрабуе адказаць і на гэтыя пытанні.

Дарэчы, Дзяржаўны цырк Беларусі даволі малады – ён быў створаны ў 1959 годзе. А Таццяна Бандарчук усяго чацвёрты яго дырэктар. Да яе цыркам кіравалі Марусалаў, Смольскі, Пашкевіч. І ўсім не вельмі шанцавала на заканчэнне дырэктарскай кар'еры – відаць, такое гэта няўдзячнае месца. Паглядзім, чым скончыцца гісторыя затрымання Таццяны Бандарчук, з якой цыркавы лёс таксама зрабіў неверагодны кульбіт. З-пад купала – за краты.

*Калі нумар здаваўся ў друк, стала вядома, што міністэрства ўнутраных справаў пацвердзіла факт затрымання дырэктара Беларускага дзяржаўнага цырка Таццяны Бандарчук.*

*У паведамленні прэс-цэнтра МУС гаворыцца, што дырэктар мінскага цырка была затрыманая з доказамі злачынства супрацоўнікамі ўпраўлення па эканамічнай злачыннасці ГУУС Мінгарвыканкама. Яна, як сцвярджаецца, атрымала хабар у памеры 4,9 тысячы долараў ад двух артыстаў Маскоўскага цырка за вырашэнне пытання па заключэнні кантракта на выступленне і размяшчэнне цыркавога рэквізіту. Узбуджаная крымінальная справа.* ■

## чарнобыльскі ШЛЯХ 2000



## МЫ – НАРОД!

### ГАРАЧАЯ ЛІНІЯ

■ **1 траўня 2000 года ўступіць у сілу дэкрэт А.Лукашэнкі «Аб дадатковых захадах па паляпшэнні пенсійнага забеспячэння інвалідаў, удзельнікаў Вялікай Айчыннай вайны і некаторых іншых катэгорыяў грамадзянаў».** У адпаведнасці з ім, пенсія для ветэранаў і інвалідаў вайны, «афганцаў» і партызанаў, «блакаднікаў» і «тылавікоў» павялічыцца на 3-22 тысячы – у залежнасці ад баявых заслугаў.

■ **Адразу два падобныя ўчынкі вандалізму адбыліся за апошні час у Беларусі.** У Мерачоўшчыне (Іванаўскі раён) невядомыя скралі бронзавую пліту вагою больш як 50 кілаграмаў – яна аздабляла мемарыяльны пастамент на месцы былога радавога фальварка Тадэвуша Касцюшкі. Надпіс на ёй па-беларуску сведчыў пра тое, што кіраўнік паўстання 1794 года, нацыянальны герой Польшчы і Злучаных Штатаў, ганаровы грамадзянін Францыі мае ў Мерачоўшчыне нарадзіўся. А ў Віцебску з магілы мастака Юдэля Пэна, настаўніка Марка Шагала, быў скрадзены бронзавы бюст. Пэн быў пахаваны на Стара-Сямёнаўскіх могілках у Віцебску. Міліцыя ўзбудзіла крымінальную справу па гэтым факце

■ **Ва Усходняй Еўропе працягваецца буйнейшая за апошнія 100 гадоў паводка.** Вада ўсё яшчэ прыбывае, і, паводле прадказанняў экспертаў, пік бедства прыйдзецца на канец наступнага тыдня. У Венгрыі эвакуяваныя сотні чалавек. Жыхарам сёлаў, якія апынуліся на невялікіх кавалках зямлі, адрэзаных ад знешняга свету, адмысловыя выратавальныя каманды развозяць харчаванне і медыкаменты. Штодня працы па змаганні са стыхійным бедствам абыходзяцца дзяржаве ў 1 мільён долараў. Ужо цяпер пад вадою апынуліся тысячы гектараў зямлі, цалкам разбураныя дамбы, масты і жылыя будынкі. Паводка, выкліканая таяннем снягоў і моцнымі дажджамі, ахоплівае ўсё новыя і новыя раёны.

■ **Воўчыя набегі адчулі на сабе палескія вёскі Дастоева, Красіева і Кротава.** Пачынаючы з мінулай нядзелі лясныя драпежнікі загрызлі некалькі сабак, жарабка і напалі на гаспадара, які выйшаў на адчайны брэх сваіх двух аўчарак. Спецыялісты гавораць пра магчымую большую агрэсіўнасць звяроў, паколькі адстрэл ваўкоў на Беларусі ў 1999 годзе зменшыўся да 140, у тым ліку і нявыкармленых.

### ЧАЧНЯ

## Масхадов может предоставить документы о взрывах домов

Чеченский президент Аслан Масхадов в четвертый раз за последние пять дней предложил Москве начать мирные переговоры для разрешения конфликта в Чечне. Он подчеркнул, что «готов вести переговоры», отметив при этом, что будет очень сложно остановить войну, так как население полностью вовлечено в конфликт. Масхадов отметил, что если переговоры станут реальными, он предоставит Москве «документы о взрывах» в 4 российских городах, которые послужили причиной начала войны. В результате этих взрывов погибли 292 человека. В заявлениях последних нескольких дней президент Чечни пытается дистанцироваться от наиболее радикальных исламских лидеров Чечни. ■

**gazeta.ru**

### ПЕРАМОВЫ

## Маналагічны дыялог

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

Улада працягвае гуляць у перамовы. Чарговае паседжанне «дыялога грамадска-палітычных сілаў Беларусі» адбылося ў мінулую сераду. Тэмай, пралабіраванай галоўнай беларускай «яблычніцай» Вольгай Абрамавай, стаў «Выбарчы кодэкс Рэспублікі Беларусь: змест, параўнальны аналіз, магчымасці ўдасканалення».

Як вядома, выбары – адно з найбольш балючых пытанняў, па якіх А.Лукашэнка ніяк не можа знайсці пагадненне з апазіцыяй. 24 студзеня гэтага года палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу прыняла Выбарчы кодэкс, які, на думку апазіцыі і міжнароднай супольнасці, не адпавядае міжнародным дэмакратычным стандартам. Выбары, праведзеныя на падставе такога кодэкса, не будуць свабоднымі і справядлівымі.

Увосень гэтага года ўлада плануе правесці парламенцкія выбары, а ў наступным годзе – прэзідэнцкія. Для таго, каб вывесці Беларусь з стану міжнароднай ізаляцыі, А.Лукашэнку трэба прыцягнуць апазіцыю да ўдзелу ў выбарах і такім чынам даказаць, што ў Беларусі свабода, дэмакратыя і плюралізм. Аднак апазіцыя ніяк не «прыцягваецца» – не хоча гуляць па лукашэнкаўскіх правілах і патрабуе ўнесці змяненні ў Выбарчы кодэкс, забяспечыць ёй гарантаваны доступ да дзяржаўных СМІ і змяніць паўнамоцтвы і функцыі парламента.

Дзеля пошуку кампрамісу па гэтых пытаннях і быў распачаты «дыялог». Але на такіх умовах, што апазіцыя адразу адмовілася ў ім удзельнічаць. Замест апазіцыі на «дыялог» сабралася некалькі прапрэзідэнцкіх партыяў і вялікая колькасць грамадскіх аб'яднанняў.

Па словах старшыні рабочай групы «дыялога», першага намесніка кіраўніка адміністрацыі прэзідэнта Уладзіміра Русакевіча, жаданне паразмаўляць з уладай выказалі ўжо 107 партыяў і грамадскіх аб'яднанняў. Тым не менш, пазаўчора ў зале гатэля «Планета» сабралося толькі каля 75 удзельнікаў. Як было заяўлена, усіх астатніх тэматыка паседжання – удасканаленне Выбарчага кодэкса – проста не цікавіла. Зрэшты, і гэтых 75 было зашмат. У прыватнасці, ніхто не мог зразумець, нашто абмяркоўваць умовы правядзення выбараў прадстаўнікам асацыяцыі інвалідаў-калясачнікаў, асацыяцыі садзейнічання ААН, блакаднікам Ленінграда і нават аднаму прадстаўніку казацтва. Але ўсе яны дзве гадзіны сядзелі з разумнымі тварамі і ўважліва выслухоўвалі ўсё, што адбывалася падчас паседжання.

Сам «дыялог» больш за ўсё нагадваў конкурс маналогаў. Да прыкладу: з дзвюх гадзінаў, што доўжылася паседжанне, 55 хвілінаў выступаў дэпутат «палаткі» Анатоль Красуцкі, які нахвальваў Выбарчы кодэкс – які ён добры і прыгожы. За ім выходзілі іншыя «дыялаганты», якія на працягу дзесяці хвілінаў выказвалі свае думкі наконт кодэкса ці проста жыцця ў Беларусі.

Дарэчы, прадстаўнікоў грамадскіх аб'яднанняў вельмі не задавальняе тое, што іхнія арганізацыі не могуць прапаноўваць кандыдатаў у дэпутаты парламента. Аднак закон аб грамадскіх аб'яднаннях напрамую забараняе ім займацца палітычнай дзейнасцю. Яны ж менавіта таму і называюцца «грамадскімі», што мусяць займацца грамадскімі справамі. Хочаш стаць дэпутатам – ствары сабе партыю. Або далучайся да існуючых.

Планавалася, што ўдзельнікі дыялога разаб'юцца на экспертныя групы па розных пытаннях, будуць выпрацоўваць рашэнні праблемаў, а потым гэтыя рашэнні ўлада быццам бы будзе выконваць. Але дакладнага механізма такога супрацоўніцтва дагэтуль няма. ▶

Заканчэнне на стар.3

### НАДВОР'Е




**Курс наяўнага долара на «чорным рынку» 950**

 



## БПСМ плануе наступ на Нарач

**Галіна КАЗІНЕЦ**

**Пра новую «мазгавую атаку» на кіраўніцтва справаў прэзідэнта заявіў першы сакратар ЦК БПСМ Усевалад Янчэўскі ў Брэсце, на сустрэчы з дэлегатамі, вылучанымі ад 15 сельскіх райкамаў і 5 гарадскіх на 2-гі з'езд БПСМ, што адбудзецца ў Мінску напрыканцы красавіка. Эфектныя аргументы спатрэбіліся ў рэгіёне для відавочнай агітацыі тых 100 галасоў, што будзе мець Брэстчына на фінішным этапе барацьбы Янчэўскага за перавыбары на месца лідэра.**

Ранейшага «заўхоза» Ціцянкова ўчарашні студэнт узгадаў з той нагоды, што патрабавалі ў яго «толькі крэслы і кабінеты». Цяпер ЦК правёў праз адміністрацыю прэзідэнта фінансавы праект арганізацыі на Нарачы экалагічнага цэнтра, які, як даў зразумець прысутным Янчэўскі, дазволіць прыбыткова займацца турысцкім бізнесам. У сутнасць яшчэ адной «мазгавой» атакі прамоўца не паглыбляўся – сказаў, што «гэта пакуль сакрэт». Падзеі 25 красавіка ў Мінску Янчэўскі абазваў «полуумными демонстрациями», а пацярпелых ад дубінак равеснікаў – бунтаўшчыкамі. Патрыятызм, па Янчэўскаму, гэта «павага цяперашняй улады і яе структураў». Што ж да ўласцівага моладзі радыкалізму, то фармальны важак яе «патрыятычнага» крыла заклікаў адысці ад дыскусіяў. БМПС, паводле ягоных прызнанняў, павінен трымацца за Лукашэнку і агітаваць народ за перавыбары на другі тэрмін.

Якіх-небудзь апанентаў ці гатовых у голас падтрымаць гаваруна ў Брэсце не знайшлося. Зала толькі пляскала ў далоні, калі Янчэўскі закончыў маналог пра бізнесовыя інтарэсы сваёй арганізацыі. Адчувалася, што душа юнага чыноўніка прагне новых крыніцаў фінансавай забяспечанасці і прыватных ініцыятываў. Ён не мог паскардзіцца напрамую, што з 33.143 членаў Брэсцкай абласной арганізацыі БПСМ абсалютная большасць – школьнікі, некаторая праслойка з студэнтаў і, як гаворыцца, поўны нуль з дзелавых колаў маладога бізнесу. Быць жа завадатарам у чарадзе падлеткаў не вялікі гонар, ды на віхлявай палітыцы лёгка абанкруціцца перад заўтрашнім днём. Так што прабіўны юнак Янчэўскі рыхтуецца да троннай прамовы на з'ездзе з галавакружнымі ідэямі. У выпадку іх грамадскага поспеху дзяржаве давядзецца аплаціць чарговы віток кар'еры Янчэўскага маёмасцю дыскатэкаў, турыстычных базаў і іншым. ■

## Маналагічны дыялог

*Заканчэнне.*
*Пачатак на стар.1*

У кулуарах «дыялога» Вольга Абрамава скардзілася: ніяк не можа стварыць экспертную групу па выпрацоўцы змяненняў у Выбарчы кодэкс – не хапае жадаючых рэальна працаваць. Мінімальны склад групы – тры чалавекі, а набралася пакуль толькі два – яна сама і старшыня Беларускага рэспубліканскага клуба выбаршчыкаў Уладзімір Гузееў. Атрымліваецца, што толькі дзве арганізацыі з 107 рэальна зацікаўленыя ў змяненнях у кодэксе, астатнія сабраліся разумных людзей паслухаць.

Толькі некаторыя ўдзельнікі «дыялога» прыходзяць да разумення, што іх сабралі, каб выпусціць пару з грамадства і паказаць прыгожую карцінку прадстаўнікам Захаду, што нічога «дыялог» не вырашыць, а толькі змарнуе час. Такую думку выказвала прадстаўніца Партыі камуністаў беларускай Алена Скрыган у прыватных размовах. Аднак з трыбуны казала зусім іншае, болей «правільнае».

Паседжанне скончылася нічым. «Усім дзякуй, усе вольныя» – і праз два тыдні гэтая «гаварыльня» збярэцца зноў, каб абмеркаваць яшчэ нейкую праблему ў жыцці беларусаў. ■



## NATO разаб'ецца аб 300.000 войска РБ

**Канстанцін СКУРАТОВІЧ**

**На жаль, жыццё наша поўніцца дурнымі анекдотамі. Асабліва шчыруе на гэтай ніве Аляксандр Лукашэнка.**

Вось і зараз, звяртаючыся са штогоднім пасланнем да дэпутатаў так званага Нацыянальнага сходу, ён не стрымаўся ад спакусы патлумачыць становішча краіны ў стылі Чапаева.

Памятаеце схему наконт таго, дзе павінен быць камандзір пад час наступлення, якую Васіль Іванавіч ствараў з дапамогай бульбы? Дык вось, наш галоўнакамандуючы засвоіў усе гэтыя «генштабісцкія» прыдумкі і паабяцаў, што на абарону Беларусі ад NATO ён выставіць 300.000 войска, забяспечанага самым найноўшым узбраеннем.

Праўда, гэта, калі ўлічыць гістарычны вопыт (Напалеон, пачынаючы вайну з Расіяй, меў каля 600 тысяч войска, а Гітлер – больш за мільён), не шмат. Але гэта зашмат для Беларусі, дзе, акрамя ўласна арміі, у тры разы болей маладых людзей стаяць пад ружжом у міністэрстве ўнутраных справаў. Таму калі іх перакінуць у войска, то без абароны застануцца бліжэйшыя подступы да К.Маркса, 38.

Да таго ж невядома, дзе ўзяць тое сучаснае ўзбраенне, якое беларускім жаўнерам абяцае іх галоўнакамандуючы. Бо зброя – гэта перш-наперш грошы. А ў «бацькі», пра гэта ўсе ведаюць, іх не больш, чым у бацькі аперэтачнага атамана Грыцыяна, з нагоды чаго банда пачала мяняць кулямёты на штаны-галіфэ і, у рэшце рэшт, разбеглася.

Зразумела, калі Лукашэнка што-небудзь прамаўляе, то ён мае на ўвазе не толькі Беларусь, але і Расію. Таму можа скласціся ўражанне, што зброю падкінуць «старэйшыя браткі». Але надзеі на гэта таксама належаць да жанру анекдотаў. Бо, як паведамляе «Комсомольская правда», расійская армія «злажыла зброю ў чужыя арсеналы». Прынамсі, за апошнія 7 гадоў яна прадала Кітаю 101 самалёт, а для ўласнага войска купіла толькі 7. Аналагічная сітуацыя і з іншымі відамі ўзбраення. Не маючы сродкаў для ўласнай арміі, Расія, зразумела, можа даць беларусам толькі тое, што іржавее на яе ваенных складах. Усё гэта, зразумела, зможа нейкім чынам страляць, але толькі пасля адпаведнай падрыхтоўкі. Да таго ж збройная справа ва ўсім свеце, тым больш у багатых краінах NATO, пастаянна ўдасканальваецца. А гэта, як паказала практыка, выклік, на які Лукашэнка не можа адказаць адэкватна.

І апошняе. Звонку Беларусь выглядае на нармалёвую дзяржаву. Прыкладам, ёсць у яе парламент, дэпутаты якога ловяць і ўхваляюць кожны гук, які робіць «іх прэзідэнт». Але адбываецца ўсё гэта ў такім вакууме, што ніякага дачынення да рэальнага жыцця не мае. Вось і зараз гамонка ішла пра пераход ад стабільнасці да ўстойлівага развіцця. А гэта анекдот. Анекдот, які дае вельмі багата матэрыялу для спецыялістаў. Таму з'яўленне на Беларусі псіхааналітыка, роўнага Фрэйду, гэта, відавочна, толькі справа часу. Гэтаму можна было б і парадавацца, калі б... Глядзіце пачатак. ■



## Путина не пускают к королеве

Пока Владимир Путин готовится к визиту в Великобританию, там накаляются страсти. Правозащитники и оппозиционные Тони Блэру политики намерены жестоко наказать избранного президента России за чеченскую войну. Страшно подумать: Путина хотят не пустить к королеве. Однодневный визит Путина в Великобританию, еще не начавшись, вызвал массу комментариев и пересудов. Эта, казалось бы, обычная рабочая встреча лидеров двух стран была воспринята на Западе как нечто из ряда вон выходящее и даже неприличное. Раньше всех переполошились правозащитники. Сразу две организации – *Human Rights Watch* и *Amnesty International* – наперебой закричали, что Путина нужно не встречать с распростертыми объятьями, а призвать к ответу за нежелание остановить чеченскую кампанию. Сегодня стало известно, что эти организации собираются послать специальные письменные обращения на адрес британского правительства.

Представитель нью-йоркского отдела *Human Rights Watch* заявил в этой связи, что «один из рычагов воздействия международного сообщества на Путина – это не давать ему выйти на международную арену». В ходе визита в Лондон Путин планировал встретиться с британским премьером Блэром, рядом промышленников и английской королевой. Правозащитники в особенности воспротивились встрече Путина с королевой. По мнению *Human Rights Watch*, Путин этой привилегии не достоин, и встреча эта «будет лишь способствовать росту его международного престижа».

Вместе с правозащитниками против предстоящего визита Путина выступили и радикально настроенные британские политики. Вчера представитель британского МИДа либеральный демократ Мензис Кэмпбел заявил, что «Британия не должна принимать с распростертыми объятьями человека, построившего свою президентскую кампанию на проведении жестокой военной акции в Чечне». Сегодня он вспомнил и визит в Чечню Мэри Робинсон, и процедуру по исключению России из Совета Европы, обратившись к Тони Блэру с риторическим вопросом: «Не испытывает ли правительство некоторый дискомфорт, привечая Путина в Лондоне?»

Не молчит и британская пресса. *The Times* настойчиво цитирует российских правозащитников. В сегодняшнем выпуске приводится мнение Елены Боннер, считающей, что «в Чечне имеет место геноцид чеченского народа», и Блэр поэтому не должен предоставлять России никаких кредитов. Другое издание – либеральная *The Guardian* – тоже вовсю наседает на Тони Блэра. Вчерашняя статья вышла под названием «В постели с Путиным». Сегодняшняя называется «Оставайтесь дома, господин Путин». Российскому президенту предлагают сначала решить проблему нарушения прав человека в Чечне, а уже потом думать об укреплении международных связей. ■

**Василий Сергеев**
**«Газета.ru»**

ПАЛІТЫКА

## Добраахвотныя рабы?

### КГБ Беларусі адняў у сям'і Дзмітрыя Кухаронка шанец атрымаць грашовую кампенсацыю як ахвярам фашызму

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

### Лёс патомнай каланісткі

Гэтая гісторыя, аказваецца, пачалася даўно. Нават не ў 1943 годзе, калі сям'ю Кухаронкаў (бацьку, жонку і двух дзяцей) немцы вывезлі са Смілавічаў на паднявольную працу ў фашысцкую Нямеччыну. Яна пачалася ў жудасныя 30-я гады, калі ў Паволжы, дзе жыла сям'я нямецкага каланіста Марціна Махта, лютаваў голад, і людзі, каб ураттавацца, праз салдацкія кардоны ўцякалі хто куды. Адна з дачок Марціна, Валянціна, дабралася да Беларусі і знайшла прытулак у Смілавічах, што ў 30 кіламетрах ад Мінска. Там пабралася з беларусам Дзмітрыем Кухаронкам і засталася жыць. Засталася яна і немкай па пашпарце.

У 1943 годзе акупанты вывозілі людзей працаваць у Нямеччыну. У такую хвалю патрапіла і сям'я Кухаронкаў. Спадарыня Валянціна ўзгадвае, што прыехалі за імі ўвечары, нават не далі сабрацца, завезлі быццам у Рудзенск, дзе сфармавалі эшалон і павезлі на захад. Спачатку трымалі ў лагеры ў Польшчы, потым завезлі ў Баварыю пад горад Вольфген-Вассерс, дзе да вызвалення амерыканцамі яны працавалі ў баўэра Роста. Адпаведная даведка з ФРГ у Валянціны і Дзмітрыя Кухаронкаў ёсць. Аднак яе не прызнаюць нашыя ўлады. Яны сцвярджаюць, што Кухаронкі ў Нямеччыну з'ехалі добраахвотна. Пра гэта сказана ў лісце КГБ № К-6944, які 5 гадоў таму падпісаў чэкіст Л.Піменаў. Але на якой падставе з'явілася такое сцверджанне?

### Нямецкі характар

Адзін з сыноў Валянціны Марцінаўны, Аляксандр, у жылах якога, відаць, цячэ ўпартая нямецкая кроў, не задаволіўся адказам з КГБ і пачаў свае разбіральніцтва. Неўзабаве ён высветліў, што сучасныя гэбісты карысталіся паказаннямі, што былі сабраныя іх папярэднікамі пасля вайны. Два сведкі тады казалі, што Кухаронкі быццам бы самі з'ехалі ў Нямеччыну – «на заробкі». Ведаючы, што гэта няпраўда, Аляксандр Кухаронак працягваў расследаванне і, у рэшце рэшт, знайшоў гэтых сведкаў. Як сцвярджае Аляксандр, старыя людзі шчыра прызналіся яму, што далі паклёпніцкія паказанні пад прымусам. Хутчэй за ўсё смілавіцкія чэкісты рыхтавалі справу супраць «здраднікаў – ворагаў народа», ды чамусьці не атрымалі загад давесці пачатае да канца.

Не менш дапытлівым аказаўся і ўнук спадарыні Валянціны Аляксей. Той задаўся пытаннем, чаму ўсё ж немцы вывезлі сям'ю ягонай бабулі асобна ад іншых сем'яў, ці не спрацавалі тут пашпартныя дадзеныя бабулі? Аляксей высветліў, што як раз у 1943 годзе Адольф Гітлер выдаў загад аб прымусовай мабілізацыі на працу ўсіх этнічных немцаў, якія пражываюць на далучаных тэрыторыях. Не выключана, што гэты загад і стаў прычынай таго, што сям'я Кухаронкаў апынулася ў Нямеччыне. Калі ж уявіць, што Кухаронкі з'ехалі добраахвотна, то навошта ім было добраахвотна вяртацца ў родны кут у 1945 годзе?

Гэтая логіка не дазваляе сёння Кухаронку-малодшаму пагадзіцца з высновамі чэкістаў, а галоўнае, з тым кляймом, які яны, па сутнасці, паставілі на ўсёй ягонай сям'і.

### Кантора выпадкова маху не дае

Яшчэ жывыя сведкі таго, што сям'ю Кухаронкаў адпраўлялі ў Нямеччыну прымусова, як палонных. Дастаткова апытаць суседзяў ды іншых жыхароў Смілавічаў, чаго супрацоўнікі КГБ чамусьці не зрабілі, а задаволіліся дадзенымі 40-гадовай даўніны. Па-другое, як высветліў Аляксей, гэта не адзіны выпадак, калі камітэтчыкі адмовілі грамадзянам у пацверджанні факта, што яны былі вывезеныя ў Нямеччыну. У такім жа становішчы «добраахвотных рабоў» апынуліся Галіна Сакалоўская, сям'я Казаковых з Мінска ды іншыя. Прычым у гэтых выпадках гаворка таксама ідзе пра этнічных немцаў. У іх былі розныя лёсы. Галіна Сакалоўская, напрыклад, была ў партызанах, трапіла ў палон, апынулася ў Германіі, але і пра яе лічаць, што з'ехала па сваёй волі. Аналіз падобных прыкладаў прывёў Аляксея да сумнай высновы: як існаваў у савецкія часы, так і цяпер існуе перадузяты падыход да нямецкай нацыянальнай меншасці. Згодна з ім, этнічныя немцы альбо яўныя ворагі, альбо іхныя замаскіраваныя памагатыя. Ва ўсялякім разе яны мала вартыя даверу, і дзяржаўная машына не мусіць даказваць іх невінаватасць.

Другая выснова, якую робіць сям'я Кухаронкаў з гэтай гісторыі, звязаная з фінансамі. Падобна, што ўрад Беларусі крадзе грошы ў грамадзянаў краіны, лічыць Аляксей. Бо ўрад праз фонд «Узаемаразуменне і прымірэнне» аднаасобна распараджаецца грашовай кампенсацыяй ахвярам фашызму, пры гэтым сам жа вырашае, хто ахвяра, а хто не. Атрымліваецца, што сродкі, якія Федэратыўная Германія выдаткавала ў якасці кампенсацыі беларускім грамадзянам, вырашылі з'эканоміць на этнічных немцах. Іх лёгка прадставіць пасобнікамі ворагаў, дастаткова толькі зазірнуць у чэкісцкія звесткі сталінскіх часоў.

Калі гэта не так, то чаму б КГБ не правесці сапраўднае расследаванне фактаў «добраахвотнага рабства»?

**P.S.** Рэдакцыя НАШАЙ СВАБОДЫ гатовая публікаваць лісты сваіх чытачоў пра неабгрунтаванае адмаўленне ў выдачы дакументаў на атрыманне грашовай дапамогі ахвярам фашызму. ■

 

ІНТЭРВ'Ю

# «Мяне радуе моладзь. Я веру менавіта ў яе!»

Вольга АНЦЫПОВІЧ

**«Не магу сцерці са сваёй памяці гады сталінскіх рэпрэсіяў, вайну і 90-я гады, калі незалежнасць для Беларусі стала амаль рэальнасцю. Аналізуючы гэтыя падзеі, я і раблю высновы адносна сённяшняга дня», — кажа былы франтавік, адзін са старэйшых «фронтаўцаў», пісьменнік Артур Вольскі. Ужо дзесяты год ён удзельнічае ў паседжаннях Сойма БНФ, падпісвае заяўкі на правядзенне вулічных акцыяў, ніколі не адмаўляецца ад магчымасці выказаць свае погляды.**


Фота Ул.ШЛАПАКА

***— Ці не стаміліся Вы, паважаны спадар Артур, ад актыўнага грамадскага жыцця, тым больш, што змены ў грамадстве, мяркуючы па ўсім, адбудуцца не ў самы блізкі час?***

— Калі шчыра, то стаміўся. Але нікуды не падзенешся, бо, як кажуць, калі ты не займаешся палітыкай, то яна можа заняцца табой, і горш будзе толькі табе. А потым, я ўжо проста не магу абстрагавацца ад таго, што робіцца ў Беларусі, і прыняць долю сярэднястатыстычнага пенсіянера.

***— Пасля апошняга з'езда БНФ, на якім адбыўся раскол, Вы падтрымалі Вячорку. Якое зараз Вашае стаўленне да Пазьняка, улічваючы некалі даволі блізкія адносіны паміж вамі?***

— Сапраўды, я апынуўся ў так званым «вячоркаўскім» Фронце, але гэта зусім не таму, што я расчараваўся ў Пазьняку. Ён па-ранейшаму застаецца для мяне безумоўным аўтарытэтам і знакавай фігурай у гісторыі Беларусі, роўная якой яшчэ не хутка з'явіцца ў грамадскім руху. Але з'ехаўшы за мяжу, у чым, дарэчы, я яго ніколі не вінаваціў, ён адарваўся ад беларускай рэчаіснасці, і гэта не дае яму магчымасці адэкватна ацэньваць сітуацыю. Бліжэйшае атачэнне Пазьняка наступова пачало выдаваць свае суб'ектыўныя погляды за рэальны стан рэчаў, зразумела, што гэта рабілася не наўмысна. Паступова Зянон проста страціў магчымасць прымаць рашэнні, якія б адпавядалі сітуацыі. У яго ўяўленні Беларусь засталася ўзору 96 года, і ніхто не здолеў яму давесці, што ўсё кардынальна і незваротна змянілася. У прынцыпе, лічу, што да расколу Фронту прывяла выключна баравьба амбіцыяў, а не нейкія ідэалагічныя разыходжанні.

***— А перад Вамі праблема эміграцыі ніколі не паўставала?***

— Я асабіста не трапляў у сітуацыю, калі неабходна было з'язджаць за мяжу. Але шчыра перакананы, што эміграцыя ў любым выпадку – вялікая бяда для чалавека, і яна стала трагедыяй не для аднаго пакалення беларусаў. Зараз кажуць, што сучасная эміграцыя мае пад сабой больш прагматычны падмурак, што нехта пераўтварыў яе ў бізнес і такім чынам уладкоўвае сваё жыццё. Але гэта ўжо не эміграцыя, па меншай меры, не эміграцыя палітычная.

***— Калі Малады Фронт ладзіў грамадскі працэс па Чачні, то большасць запрошаных адмовілася ад удзелу, спаслаўшыся на неадназначнасць праблемы. Вы ж адразу згадзіліся.***

— Бо лічу сваім абавязкам выкарыстаць любыя сродкі, каб давесці хаця б частцы грамадства, што ўвесь чачэнскі народ проста не можа быць тэрарыстамі. Магчыма, што амаль ўсе яны баевікі. Але баявік і тэрарыст — розныя паняцці. Баявік – той, хто са зброяй у руках змагаецца за нешта, чачэнцы, у прыватнасці, змагаюцца за права існавання сваёй нацыі. І гэта апраўдвае большасць іх крокаў. А тэрарыст – адназначна адмоўнае паняцце. Для мяне чачэнскія змагары – героі. Неаднаразова я казаў, што партызаны падчас Вялікай Айчыннай вайны палілі хаты простых людзей, прыкрываліся мірнымі жыхарамі, але ніхто не адважыцца зараз назваць іх бандытамі.

Сёння гэта можа здацца непраўдападобным, але падзеі ў Чачні – грознае папярэджанне беларусам, бо заўтра ці паслязаўтра, хутчэй за ўсё, нам можа прыйсціся адстойваць незалежнасць са зброяй у руках. Гісторыя неаднаразова вучыла – калі не абароніш свабоду пры атрыманні, то пасля адваяваць яе наўноў будзе значна цяжэй. Напрыклад, пасля стварэння БНР не змаглі беларусы адваяваць сабе незалежнасць, а пасля ўжо ўсялякія спробы набыць самастойнасць былі немагчымыя. І Слуцкі збройны чын, і спробу стварэння Койданаўскай Рэспублікі бальшавікі проста патапілі ў крыві.

Пачынаючы з паўстання Касцюшкі і сканчаючы сталінскімі рэпрэсіямі – заўсёды вораг вынішчаў самых мужных і адчайных. Выжываў пераважна той, хто ціха перачакаў. Гэтыя людзі ў большасці сваёй і сталі носьбітамі беларускага генафонду. Таму зараз так цяжка людзі згаджаюцца адкрыта дэманстраваць сваю пазіцыю, адстойваць свае погляды, якія супярэчаць афіцыйна прынятым.

***— А што найбольш Вас непакоіць у сучасным грамадстве?***

—Недастатковая актыўнасць супраціўлення рэжыму, які пануе на Беларусі. Галоўнае, што амаль усе разумеюць, што жывем дрэнна, але робяць выгляд, што ў нас не горш за людзей.

А самае моцнае расчараванне ў апошнія гады — рэферэндум 95 года. Да апошняга моманту я не верыў, што ён дасць такія вынікі. Я дапускаў думку, што з прыходам да ўлады Лукашэнкі замарудзіцца хада рэформаў, што не будзе спрыяння беларушчыне, як пры Шушкевічу, але нават у самых песімістычных уяўленнях я не бачыў вяртання савецкіх сімвалаў.

Невырашальнай праблемай мне здаецца такая моцная залежнасць ад Расіі, як зараз. Нават калі Лукашэнка знікне, то працэсы, пачатыя ім, могуць працягвацца. Бо ні толькі расійскі ўрад ці фашыстоўскія сілы ў Расійскай Федэрацыі, але і амаль уся інтэлігенцыя мае імперскія погляды. І яны будуць вітаць інкарпарацыю Беларусі ў склад Расійскай Федэрацыі. Гэта вельмі непакоіць. Бо нават калі царызм заваёўваў Паўночны Каўказ, то ўся перадавая інтэлігенцыя спачувала каўказцам. Зараз жа ў яе няма разумення ні да Чачні, ні да Беларусі.

А з абраннем Пуціна, я думаю, становішча яшчэ больш пагоршыцца. Бо чалавек, які вешае ў сваім працоўным кабінеце партрэт Пятра І, проста не здолее зразумець імкненне іншага народа да свабоды.

***— Атрымліваецца, што ў беларусаў ужо не засталося шанцу на станоўчы вынік спробаў адраджэння?***

— Не ведаю, як наконт станоўчага выніку ў бліжэйшыя часы, але спробы адраджэння будуць працягвацца, пакуль хаця б нехта будзе адчуваць сябе беларусам. Такія людзі будуць заўсёды, нягледзячы на розныя ўрады і розную палітыку. Я гляджу на свайго сына. Калі я аддаваў яго ў школу, то ў Мінску не было ніводнага беларускамоўнага класа, і ён вучыўся, натуральна, па-руску. Але ён вырас узорным, у нейкім сэнсе, беларусам. І спявае «Партызанаў», а не рускую народную.

Мяне наогул радуе моладзь. Як банальна б гэта ні гучала, веру менавіта ў яе. У мяне самога расце ўнучка, яна пойдзе ў беларускамоўны садок. І вырасце беларускай. Шкада, што мне цяжка сказаць, у якой краіне ёй прыйдзецца жыць. ■

# Пазбаўленне ад маргінальнасці

## Украіна ўкраінізуецца насуперак расійскай непрыхільнасці

Кірэй МАНУЙЛАЎ

**Украіна – адзіная дзяржава ў СНД, дзе суверэнітэт не проста зваліўся як рэчаісная дадзенасць, а быў ухвалены на адмысловым рэферэндуме ў 1991 годзе аж 93% насельніцтва. Тым не менш незалежнасць і ўкраінскасць у безумоўныя не ператварыліся, хоць дэкаратыўнымі іх таксама не назавеш.**

Самай цікавай падзеяй за апошні час стаў напад 9 сакавіка нікому дагэтуль невядомай групоўкі «Самостійна Україна» на памяшканне ЦК Украінскай кампартыі. Адзінаццаць студэнтаў забарыкадаваліся там і, пагражаючы самаспаленнем, калі праваахоўныя сілы будуць штурмаваць будынак, звярнуліся да суайчыннікаў і ўладаў з шэрагам глабальных ініцыятываў. Гэта забарона камуністычнай партыі і іншых антыўкраінскіх арганізацыяў, выхад Украіны са складу СНД, дэрусіфікацыя і дэкаланізацыя краіны.

Некалькі арганізацыяў (Маладзёжны кангрэс нацыяналістаў, «Трызуб» імя Сцяпана Бандэры) аб'ядналіся ў Камітэт маладзёжнай салідарнасці «Самостійна Україна» з мэтай спрыяць выкананню патрабаванняў арыштаваных студэнтаў. Наогул на Украіне да гэтых маладых людзей паставіліся, нягледзячы на тое, што іхнія дзеянні выглядаюць тэрарыстычнымі, досыць лаяльна. Тут узгадваюць выпадак, калі летась у Севастопалі расійскія фашысты захапілі клуб маракоў. Тады ім таксама інкрымінаваўся незаконны захоп будынка, прычым аб'екта вайсковага, а да таго замах на тэрытарыяльную цэласнасць Украіны: дзецюкі раскідвалі ўлёткі з заклікам «Крым – России!» Але ім – па просьбах мацярок і расійскага МЗС – даравалі і дэпартавалі з краіны.

Вось як ацэньвае ўчынак студэнтаў дарадчык прэм'ер-міністра Украіны: «Гэта ахвяра ў імя дзяржавы. Адно, што антызаконная ахвяра ў імя дзяржавы. Але гэта – рэальнасць. Патрабаванні маладых людзей – гэта не патрабаванні да заканадаўчай ці выканаўчай улады, а перадусім да грамадства. Калі грамадства не зробіць высноваў, то мы атрымаем ланцуг падобных дзеянняў. Цяпер яны мусяць ісці з правага боку. І добра, што правыя сілы, патрыятычныя сілы, разумеюць неабходнасць існавання Украіны як дзяржавы. У той час, калі левыя лічаць, што Украіна – толькі «...нацатая частка колішняга Саюза Савецкіх рэспублік».

Такая рэакцыя чыноўніцкай асобы на інцыдэнт зусім не дзіўная. Ва ўладзе на Украіне, здаецца, паступова ўсталёўваюцца пераважна правацэнтрысцкія сілы. Як вынік ва ўнутранай палітыцы з'явіліся тэндэнцыі на фарсіраванне эканамічных рэформаў, дэкамунізацыі і ўкраінізацыі грамадства. За паразай левых агулам і паасобку на прэзідэнцкіх выбарах прыйшла (хай трохі пад пагрозай рэферэндумнага недаверу) і сітуацыйная, «другая аксамітная рэвалюцыя» ў Вярхоўнай Радзе. Хоць забароны КПУ, напэўна, не адбудзецца. Але ўжо зараз на Украіне арганізоўваецца альтэрнатыўная ёй новая партыя камуністаў, якая не будзе выступаць супраць прыватнай уласнасці, крычаць за ўваходжанне Украіны ў Саюз Беларусі і Расіі і за наданне расійскай мове роўнага з украінскай статусу дзяржаўнай.




Галоўны інструмент з боку Расіі па ўтрыманні Украіны ў сферы свайго ўплыву – шантаж нафтай і прыродным газам. Відаць, наступствы падобнай палітыкі павінны паказаць, як кажа Беразоўскі, што Украіна, быццам бы, «несамадастатковая краіна, няздольная сябе сёння забяспечыць». То нафтаправод перакрываюць, то коштамі продажу выключна для Украіны як заўгодна жанглююць. А ў крадзяжах нафты і газу абвінавачваюць пастаянна. Як вынік сумы ўкраінскага паліўнарэсурснага доўгу перад Расіяй з абодвух бакоў называюцца розныя. На Украіне зараз кусаюць локці, што не пабудавалі ў свой час, як меркавалася, нафтавы тэрмінал пад Адэсай. У такіх умовах складана ажыццяўляць паўнавартасны і незалежны палітычны, і тым больш эканамічны курс. Каб без аглядкі на «старэйшага брата». Таму і Кучма, і ягоны папярэднік на пасадзе прэзідэнта краіны Краўчук былі вымушаныя, дэкларуючы на перспектыву шлях Украіны ў Еўропу, пастаянна лавіраваць паміж Захадам і Расіяй.

Але што да даўгоў: Жырыноўскі заяўляе, што Украіна будзе аддаваць іх тэрыторыямі. І гэта не зусім эпатаж. Бо ўжо дужа не па сабе расійцам без Крыма і ўсяго Чорнага мора. Яны дагэтуль адмаўляюцца праводзіць дэлімітацыю мяжы ў гэтым рэгіёне, а тое, што Расія кантралюе акваторыі Чорнага і Азоўскага мораў, на Украіне называюць «фактычна акупацыяй часткі ўкраінскай тэрыторыі». Некаторыя ўкраінскія геапалітычныя аналітыкі нават прагназуюць, што з усталяваннем у Расіі мілітарысцкага рэжыму гэтая праблема можа значна абвастрыцца, ажно да збройнага канфлікту.

І, нарэшце, яшчэ адзін «інтарэс» Расіі ў памежных краінах – абарона рускамоўных і рускакроўных. Тым больш, што на Украіне апошнімі месяцамі назіраецца новая хваля ўкраінізацыі. Прычым, досыць маштабная. ▶

Заканчэнне на стар.7

ТЭНДЭНЦЫІ

# Карысць дэмілітарызацыі

Станіслаў ЛОМ

**Унікальныя фрэскі XVIII стагоддзя знайшлі рэстаўратары ў былым пінскім кляштары францысканцаў, апошнімі гаспадарамі ў якім з пасляваеннага часу былі штабісты вучэбнага атрада ВМФ СССР. Хаця вайскоўцы не шкадавалі тынкоўкі і фарбаў, каб не пакінуць ні следу ад рэлігійнай тэматыкі, аднак нават пасля 45 гадоў з-пад плакатных малюнкаў цудоўным чынам прадстаюць боскія сюжэты. Вяртанне сёлета кляштару першапачатковай прывабнасці стане вянцом яго шасцігадовай рэканструкцыі.**

Адзін з двух гарадкоў ваенных маракоў у Пінску быў перададзены ў 1996 годзе пад Палескі дзіцячы радыяцыйна-дыягнастычны рэабілітацыйны цэнтр. Каля 40 тысяч непаўналетніх жыхароў з Столінскага, Лунінецкага, Пінскага і іншых раёнаў, дзе з-за Чарнобыля катастрафічна павялічваецца колькасць захворванняў, праходзяць тут абавязковую дыспансерызацыю. Больш як 30 дзяцей з гэтай зоны прааперыраваныя як хворыя на рак шчытападобнай залозы. Цэнтр пашыраецца, у тым ліку за кошт гуманітарнага абсталявання з Японіі, Германіі, Швецыі, ЗША і іншых краінаў свету. Гэтай «малой Аксакаўшчыне» Палесся патрабуюцца інтэрнат для прыезджых і дадатковыя памяшканні пад вучэбныя класы.



Аднак дырэктар медыцынскага цэнтра, дэпутат Нацыянальнага сходу Анатоль Волкаў саступіў просьбе савета адстаўных ваенных маракоў аб перадачы 100 квадратных метраў дэфіцытнай плошчы пад музей Дняпроўскай флатыліі і вучэбнага атрада ВМФ. Грамадскасць намерана гэтаму супрацівіцца. Справа ў тым, што ў Пінску некалі быў флоцкі музей. Аднак, калі з Балтыкі прыйшла каманда зняцца з якара і вывезці ў Расію ўсю маёмасць пінскай вучэбкі, дык была ліхаманкава разбазараная і экспазіцыя марскога клуба.

Толькі праз некалькі гадоў успомнілі пра гістарычную памяць адстаўнікі Пінска. Напачатку яны дамагліся згоды гарвыканкама на ўзвядзенне на набярэжнай Піны помніка ў гонар 300-годдзя расійскага флоту, затым – права маршыраваць у ліпеньскі дзень ваенна-марскога флоту на галоўнай плошчы горада. Зараз апетыты падвышаныя да авалодання былой маёмасцю. Можна не сумнявацца, што, стварыўшы музей, былыя марскія афіцэры, як правіла, выхадцы з Расіі, возьмуцца за патрыятычнае выхаванне чарнобыльскага кантынгенту дыягнастычнага цэнтра.

У Пінску ёсць музей гісторыі беларускага Палесся і яшчэ 14 грамадскіх. Навошта ж лезці ў дзіцячы цэнтр і назаляць у асяродку людскога гора? Пінчукі гавораць пра дзве найбольш верагодныя версіі. Дэпутат Волкаў мае намер у трэці раз захаваць за сабой дэпутацкае месца ад горада, а дзеля вярбоўкі галасоў усе спосабы добрыя. ■

СУСЕДЗІ

## Пазбаўленне ад маргінальнасці

*Заканчэнне. Пачатак на стар. 6*

У снежні мінулага года Канстытуцыйны суд пацвердзіў, што закон аб мове трэба трактаваць менавіта так, што ўкраінская мова як дзяржаўная з'яўляецца абавязковай мовай ва ўсёй выхаваўчай і адукацыйнай сістэме і абавязковай рабочай мовай органаў улады ўсіх узроўняў.

У пачатку лютага гэтага года Рада па пытаннях моўнай палітыкі пры прэзідэнце Украіны прадставіла праект «Аб дадатковых захадах па пашырэнні функцыянавання ўкраінскай мовы як дзяржаўнай». У прыватнасці, ім прадугледжваецца пераатэстацыя дзяржчыноўнікаў на валоданне дзяржаўнай мовай, павелічэнне да не менш як 50% украінскамоўнага эфірнага часу тэле- і радыёкампаніяў незалежна ад формы ўласнасці, павелічэнне мытнага збору з увозу замежнай друкаванай прадукцыі і г.д. Тым самым мяркуецца зменшыць расійскую культурную экспансію і пашыраць культуры нацыянальнай.

А на пасаду старшыні Дзяржаўнага камітэта па інфармацыйнай палітыцы, тэлебачанні і радыё Кабінетам міністраў быў прызначаны Іван Драч, «рухавец» і наогул вядомы на Украіне культурны і палітычны дзеяч. Паводле Драча, ідэалагічная канцэпцыя дзейнасці Камітэта заключаецца ў тым, «каб інфармацыйная прастора была як мага больш украінскай». У прыватнасці, восць што ён сказаў у інтэрв'ю газеце «День» пра магчымыя канкрэтныя захады: «Калі «Известия» хочуць выходзіць на Украіне, хай яны робяць пераклад украінскай моваю. Ёсць яшчэ і іншыя прапазіцыі. Кожная расійская кніжка павінна будзе сплаціць акцыз – адну грыўню на ўкраінскую культуру. Кожная расійская газета – дзесяць капеек на ўкраінскую прэсу!» Карацей, на Украіне арганізоўваецца нешта падобнае да моўнай палітыкі, як, напрыклад, у Францыі, калі французы вырашылі змагацца з англамоўным засіллем.

Расійскі МЗС адрэагаваў на ўсё гэта гнеўнай і ў нечым хамскай заявай, у якой гаворыцца, што «ў Расіі з трывогай працягваюць сачыць за развіццём падзеяў вакол рускай мовы і культуры на Украіне. Падобна да таго, што некаторыя сілы ў гэтай краіне маюць намеры стварыць небывалы дасюль у Еўропе феномен – зрабіць родную для пераважнай большасці насельніцтва мову ізгойкай і звесці яе да маргінальнага ўзроўню, а, магчыма, – і зусім выцісньць». Мяўляў, мы разумеем жаданне адраджаць украінскую мову, «але не за кошт ушчамлення правоў чалавека, і не за кошт адміністрацыйнага дэфармавання самабытнага культурна-моўнага асяроддзя». У адказ амбудсмэн (упаўнаважаны па правах чалавека) Украіны была арганізавана прэс-канферэнцыя, падчас якой заява расійскага МЗС была названая ўмяшальніцтвам ва ўнутраныя справы Украіны, а ў якасці абвяржэння былі прыведзеныя статыстычныя дадзеныя немалой прысутнасці расійскасці на ўкраінскай зямлі. Так, тут існуюць 3 тысячы рускамоўных дзіцячых садкоў і 5 тысяч агульнаадукацыйных школаў, 14 дзяржаўных тэатраў з расійскім рэпертуарам, у 31 ВНУ рыхтуюць спецыялістаў – 57% студэнтаў навучаюцца на рускай мове, дзейнічаюць 34 рэспубліканскія і мясцовыя нацыянальна-культурныя таварыствы, што абараняюць інтарэсы і правы расійскіх украінцаў, на расійскай альбо дзвюх мовах выдаецца і трансліюецца значная большасць СМІ, 90% кніжнага рынку складае расійская літаратура. У той час калі ў Расіі для 1 млн. украінцаў не робіцца нічога абсалютна. ■

# «Жизнь остановилась для нас...»

**Наталья НОВАКОВСКАЯ,**
**мать трагически погибшей 30 мая 1999 года Алевтины Новаковской, председатель Центра социальной защиты «Немига-99»**

**Следствие по уголовному делу, возбужденному Республиканской прокуратурой по факту трагедии 30 мая 1999 года, неоднократно продлевалось: первоначально до 30 июля, затем до 30 сентября, 31 декабря, 29 февраля, 30 апреля 2000 г.**



В августе 1999 года родители погибших на Немиге создали центр социальной защиты «Немига-99», председателем которого была избрана Наталья Новаковская. Центр социальной защиты «Немига-99» официально был зарегистрирован только в феврале 2000 года.

Наталья Новаковская говорит:

«Живет человек. Живет девочка, живет мальчик, живут люди... Отправляются на «организованный» в городе праздник послушать музыкальную группу «Манго-Манго». Кто-то возвращается из театра, с дачи, с репетиции, с консультации, кто-то гуляет по городу с ребенком, с женой, с мужем, с подругой, с друзьями... Начинается дождь, естественно стремление спрятаться, побыстрее добраться домой... Но никак, никогда, никому не придет в голову и мысль о том, что случилось. Потрясение не передать и не выразить словами. До сих пор. Сразу задаешь вопрос: почему не уберегли мы своих детей? Почему и кому мы вообще доверяем их жизни, отправляя в школу, в магазин, на концерт... Никто ни за что не отвечает. Ведь любой мог быть на их месте. Сегодня их не стало, а завтра никто не застрахован от такого снова. Потому что никто ни за что не отвечает. Кто, подумавши, разрешил бы проводить в одном месте и распитие спиртных напитков в неограниченных количествах, и концерт? Но подумать можно, если есть мозги, а если их нет... Погибают люди.

Наша молодежь, прекрасная молодежь, наше будущее. Теперь у нас, родителей погибших детей, нет будущего, нет наших детей. А как жить без будущего? Когда каждый день ты жил со своим чадом, вместе переживал с ним радости и невзгоды и больше никогда тебя никто не обнимет, не спросит, не улыбнется своей неповторимой улыбкой. Как это пережить и в каком долгу мы все перед своими детьми.

23 июля 1999 года родители и родственники погибших на Немиге написали письмо А.Лукашенко с просьбой встретиться. Родители думали об увековечении памяти детей, так мало видевших в жизни и ничего не успевших, о необходимости создания храма на месте гибели, о мемориальной зоне, где можно было бы помянуть наших погибших деток. Собрали 86 подписей в надежде, что нас поддержат и, главное, поймут.

Письмо передали, но встречи не было.

21 августа 1999 года родители приняли решение о создании Минской городской общественной организации «Центр социальной защиты «Немига-99». Нам необходимо постоянное общение между собой, поддержка и оказание реальной помощи семьям погибших и пострадавшим. На учредительном собрании был утвержден устав, избрано руководство. Основная задача Центра – увековечение памяти погибших.

2 сентября документы были поданы на регистрацию в управление юстиции Мингорисполкома. В конце октября (через два месяца после подачи!) после неоднократных звонков в управление юстиции с вопросом: почему так долго не регистрируют нашу организацию, нам ответили: «У вас неправильный юридический адрес». – «А где нам было взять юридический адрес?» – «Ищите». Пришлось нашему Совету обратиться в горисполком. Еще через два месяца нашлась площадь под юридический адрес. Предварительно посещали управление юстиции, выслушивали замечания. Писали письма в горисполком, беседовали с заместителями мэра. Чего только ни выслушали в разных местах по этому вопросу! Что мы хотим шума, даже скандала! Когда с адресом вопрос решился, пошли замечания по уставу. А конкретно, по пункту «Увековечение памяти погибших». Регистрирующие органы стремились изъять этот пункт, видоизменить формулировку. Точку всему этому хаосу поставила встреча в министерстве юстиции с начальником управления М.Сухининым. После беседы с ним по всему тексту устава были внесены редакционные изменения. Организация была зарегистрирована комиссией (под номером 05/0204) 1 февраля 2000 года.

Начиная с 30 июля, каждый месяц 30 числа (в феврале 29) родители и родственники погибших встречаются вечером в переходе на Немиге. Приезжают иногородние мамы и папы, родственники из других областей. В переходе мы возлагаем цветы, поправляем фотографии, убираем мусор, долго стоим и своим присутствием отдаем дань светлой памяти нашим дорогим детям, чей последний вздох помнит этот переход. Нам небезразлично недостойное поведение людей в этом месте: шум, крики, ругань, плевание и т.д.

Накануне в церкви Святых Петра и Павла заказываем поминальную панихиду на 30 число. На встречах общаемся между собой: договариваемся о посещении в следующем месяце могил в Дни рождения, как можем поддерживаем друг друга.

2 ноября 1999 года на Чижовском кладбище у дальней стены, в которую упирается центральная аллея, справа установлен Памятный знак с фамилиями и именами 11 захороненных здесь. 13 ноября Памятный знак с фамилиями захороненных 6 человек установили на Кальварийском кладбище. Знак находится на горке справа по аллее от второй калитки кладбища.

К годовщине трагедии планируется установить Памятный знак на Московском (Восточном кладбище) с именами 11 человек, захороненных там. Все знаки – результат дел нашей организации с непосредственным участием родителей.

Но всем погибшим, в том числе и двадцати пяти захороненным в других местах ( по всей республике), памятный знак в виде каплицы должен быть установлен на месте трагедии. Первоначально родители добиваются закрытия от доступа того места, где дети простились с белым светом. Перенести выход можно на этой же стороне. Проект разработан специалистами. Ждет поддержки. О результате поддержки скажет факт, как наши власти относятся к молодежи, дорожат ею или нет.

Наш Центр может предложить план организационных мероприятий, которые обеспечат безопасность проведения любого культурно-массового мероприятия, хотя мы и не профессионалы. Правильно сказала женщина у перехода: «Когда приглашают гостей, то продумывают все – и программу, и чтобы места всем хватило, чтобы весело было, и покушать было что, и чтобы ничего не случилось: не поругались, не напились, была безопасность гостей».

Наше объединение объяснит правоохранительным органам, как владеть ситуацией, предотвратить подобное, а не прятаться от дождя в автобусе. Зарплату хорошую надо отрабатывать, тем более заслужить ее надо, ведь всем известно, что материальных ценностей милиция не создает.


30 мая 1999. Последние прикосновения рук на перекрытии перехода станции метро «Немига»

У родителей много вопросов к организаторам «праздника» (ответственным за проведение) от горисполкома, к наблюдавшим за порядком от ГУВД, к медикам, приехавшим на чрезвычайное происшествие с одной кислородной подушкой, к следственным органам прокуратуры города и республики, которые с осени расследованием не занимаются, а окончание следствия откладывают. Наш Совет не раз обращался в прокуратуру республики с просьбой о встрече. Дважды встречались представители родителей со следователем Комаровским Валерием Михайловичем, зам. ген. прокурора Косухо Степаном Васильевичем и ген. прокурором Божелко Олегом Александровичем по интересующим всех вопросам. С материалами следствия обещают ознакомить позже.

По вопросу увековеченья памяти погибших родители встречались у главного художника города, в горисполкоме с мэрией, в Совете министров с Заметалиным В.П. Вопрос пока не решается. Еще осенью обещали в мэрии дискуссию со специалистами, предоставить материалы с документами, связанные с мемориальной исторической зоной, но пока одни обещания и топтание на месте.

Ещё до создания ОО «Центр социальной защиты «Немига-99» сочувствие и понимание, поддержку и помощь родители получили от Правозащитного Центра «Вясна» и Общественной организации «Правовая помощь населению». Молодые юристы безвозмездно оказывают юридическую помощь, консультации тем, кто к ним обращается. У этих людей отзывчивые сердца. Сотрудники Правозащитного Центра «Вясна» предложили родителям издание книги о трагедии, о детях и проделали большую работу по подготовке материалов для книги Памяти «Трагедия на Немиге»: ездили в области, по деревням и городам, звонили, брали интервью. Книга готовится к изданию. Все это делается безвозмездно. Простые люди сочувствуют и встречаются с нами, однако те, кто сидит повыше, не хотят о нас слышать. Наверное, боятся нас. Не хотят уделить нам немного своего драгоценного времени.

Дирижер симфонического оркестра Снидко Михаил Сергеевич предложил на черную годовщину исполнить в костеле Святых Симеона и Елены «Реквием» Моцарта. Родители ему очень признательны. У объединения много проблем и трудностей. Но неся в сердцах и делах светлую память о наших детях, дорогих, любимых, неповторимых, мы посвящаем свою оставшуюся жизнь им, всем, увековечению памяти погибших. Теперь для них мы ничего больше сделать не можем. Только оставить светлую память.

Общественное объединение «Центр социальной защиты «Немига-99» открыло два счета:

**текущий в белорусских рублях 3015000040017, код 906,**

**валютный в долларах США 3015000040017, код 840.**

Для реабилитации здоровья и психики пострадавших Центр не отказывается ни от каких предложений по вопросу увековеченья памяти нашей молодежи. У кого есть добрые намерения предложить какие мероприятия будем очень признательны и рады выслушать. У кого есть дети и кто дорожит ими, поймет нас, потерявших самое дорогое, ради чего живут люди. Когда нет будущего – жизнь теряет смысл». ■


Концепция мемориала над частью перехода, где произошла трагедия. Автор арх. Н.Лукьянчик

ПАДРАБЯЗНАСЦІ

# Табачные короли ценят наших бабушек

## Крупные производители сигарет вынуждены обращаться к контрабандистам

**Максим ЧЕРЕДА**

**Борьба с курением в развитых странах заставляет производителей сигарет перемещать реализацию продукта в государства третьего мира.**

Газета *International Herald Tribune* опубликовала выдержки из документов известной компании *British American Tobacco* (*BAT*). Они свидетельствовали, что эта табачная корпорация, стремясь расширить свое присутствие на азиатском рынке сигарет, не брезгует использовать контрабандную сеть, испокон веков существующую в этом регионе.




*Докладные* записки, подписанные руководством *BAT* за период с 1988 по 1996 год, предоставляют возможность воссоздать картину сотрудничества компании с лицами, которые распространяли сигареты в Азии контрабандным путем. Документы подтверждают причастность *BAT* к контрабанде сигарет в Афганистан, Бирму, Камбоджу, Китай, Индию, Лаос, Малайзию, Пакистан, Таиланд и Вьетнам. Причем в некоторых бумагах открыто использовался термин «провозить контрабандой» и сравнивалась часть сигарет, поставленных на легальный рынок, с «рынком общей торговли» или «транзитом» этого товара.

Судя по всему, черный рынок табачных изделий *BAT* в Азии был существенным — один из документов компании отмечает, что «рынки общей торговли» в двух ключевых странах региона достигали 4,7 миллиарда сигарет или 22% общего объема поставок продукции с 1993 по 1997 год.

В годовом отчете компании перечислены марки сигарет, которые распространялись контрабандой во Вьетнаме. Согласно документа, 40% сигарет марки «555» были доставлены во Вьетнам моряками дальнего плавания, 25% — рыбаками, 35% — другими контрабандистами, 80% поставок сигарет «Него» попали на вьетнамский рынок контрабандными тропами из Таиланда и Камбоджи.

Указанные документы обнародовали активисты британской организации по борьбе с курением *Action on Smoking and Health* (*ASH*). По мнению членов *ASH*, они свидетельствуют, что контрабанда — главный компонент рыночных сделок табачной корпорации, так как санкционирована и контролируется руководителями самого высокого уровня.

В ответ на выдвинутые обвинения директор компании *British American Tobacco* Кеннет Кларк опубликовал в лондонской газете *Guardian* статью, где отверг обвинения в незаконном уклонении от уплаты налогов. В то же время он утверждал: «Там, где правительство не готово противостоять контрабанде, компании вроде нашей оказываются перед дилеммой. Если мы не можем удовлетворить потребность покупателей в нашей продукции, то они либо переключатся на сигареты наших конкурентов, либо происходит резкий рост реализации контрабандных товаров, как это наблюдалось в последнее время в Азии».

Понятно, что рынок СНГ выглядит для табачных гигантов не менее привлекательным, чем азиатский. Доказательство тому — огромное количество старушек, продающих табачную продукцию без акцизных марок. ■

# «Мы прыйшлі на гэты свет, каб жыць годна»

**Гутарыла Наталля РАДЗІНА**

2001 год на тэрыторыі СНД можа стаць Годам Дзіцяці. Такая прапанова зробленая на ўзроўні Выканаўчага сакратарыята СНД. Нездарма.

У мінулым годзе ў Беларусі было 2 млн. 85 тысяч дзяцей. За дзесяць апошніх гадоў краіна недалічылася 328 тысяч 500 дзяцей, як раз гэтулькі, колькі іх налічвае сёння Гомельская вобласць. Чаму мы страчваем нашых дзяцей — наша агульнае заўтра? У якіх такіх цяжкіх умовах апынуліся нашыя маленькія нашчадкі?

**На гэтую тэматыку карэспандэнту НАШАЙ СВАБОДЫ адказвае прэзідэнт Беларускага дзіцячага фонду, пісьменнік Уладзімір ЛІПСКІ.**



***— Спадар Уладзімір, які на сёняшні дзень можна паставіць агульны дыягназ стану дзяцінства на Беларусі?***

— На вялікі жаль, дыягназ не надта вясёлы. Нядаўна я пабываў на Гомельшчыне, дык мне здаецца, што там дзеці нават смяяцца сталі па-іншаму. Яны не па-дзіцячы задумлівыя. Ёсць пра што задумацца і нам. Сёння на тысячу дзяцей медыкі налічваюць 1.748 захворванняў. У некаторых раёнах Магілёўскай, Гомельскай абласцей гэтая лічба яшчэ большая. Яна дае падставу зрабіць сумную выснову — здаровых дзяцей у Беларусі вельмі мала. За дзесяць апошніх гадоў захворванняў пабольшала ў 1,5 раза. За школьныя гады колькасць здаровых дзяцей скарачаецца ў 4-5 разоў.

***— Вядома, што ў Беларусі вельмі дрэннае становішча з аздараўленнем дзяцей нават з чарнобыльскай зоны. Які, на вашу думку, у нас рэальны стан з аздараўленнем?***

— Глядзіце самі. Мінская абласная дзіцячая бальніца перайшла ў разрад даўгабудаў. У Віцебскай вобласці дзіцячых бальніцаў няма. На 17 раёнаў Гродзенскай вобласці – адна дзіцячая бальніца ў абласным цэнтры. У Брэсце ўсяго дзве дзіцячыя паліклінікі з радыусам абслугоўвання 20 кіламетраў. У Глыбокім і Оршы, згодна з прэзідэнцкай праграмай «Дзеці Беларусі», павінны былі з'явіцца камбінаты па вытворчасці дзіцячага харчавання. Але добрыя намеры засталіся на паперы.

***— Дзяржава наша бедная, яна не можа аздаравіць усіх дзяцей за мяжой. Курорты Балтыкі, Крыма, Каўказа даступныя далёка не ўсім сем'ям. Што ж рабіць з хворымі дзецьмі?***

— Сёння нарадзілася новая форма аздараўлення дзяцей. Жыхары вёсак Рыбніца, Новая Руда, Парэчча на Гродзеншчыне пачалі браць да сябе на лета дзяцей з Парэцкай школы-інтэрната. Летась сем'і ўзялі 159 дзяцей. Яны пішуць дырэктару школы- інтэрната заяву, што бяруць на сябе адказнасць за здароўе дзяцей, а школа выплачвае апякунскім сем'ям грошы на ўтрыманне выхаванцаў. У сялянскіх сем'ях няма розных прысмакаў, затое дзеці атрымліваюць непадробную ласку, п'юць сырадой, дыхаюць свежым паветрам, далучаюцца да фізічнай працы. Ужо бягучым летам наш Фонд распачне такую акцыю на карысць «казённых» дзяцей і дзяцей з чарнобыльскай зоны. На Гомельшчыне, напрыклад, у вёсках з забруджанасцю ў 15-40 кюры пражываюць 7 тысяч дзяцей. Чаму б іх не запрасіць на ўсё лета ў сем'і на Нарач, на Браслаўскія азёры, у іншыя чыстыя прыгожыя мясціны?

***— А чым сёння канкрэтна можа дапамагчы дзецям ваш Дзіцячы фонд?***

— Мы не хаваем радасці, што Фонду ўдалося адправіць за мяжу для аперацыі 8 дзяцей. Усяго ў спісе 188 выратаваных такім чынам дзетак. Мы захавалі сяброўскія кантакты з замежнымі роднаснымі арганізацыямі з Амерыкі, Канады, Германіі, Аўстрыі. Ад іх атрымалі апошнім часам 11 кантэйнераў з гуманітарным грузам (звыш 90 тон медыкаментаў, медыцынскага абсталявання на суму каля трохсот тысяч долараў). Яшчэ прыклад — удача Алесіка Жукава з Рэчыцкай школы-інтэрната. Хлопчык пакутаваў на прыроджаны парок сэрца, быў залічаны ў інваліды. Нам ўдалося праз амерыканскую арганізацыю «Глобал асістэнс» і расійскую праграму «Дар жыцця» выратаваць хлопчыка. У Амерыцы яму была зробленая аперацыя на сэрцы.

***— Спадар Уладзімір, ёсць іншыя балючыя факты. За мінулы год у краіне разгледжана 5.000 выпадкаў пазбаўлення людзей бацькоўскіх правоў. Як можна спыніць гэты працэс?***

— Я перакананы, што тут справа не толькі ў разбэшчанасці бацькоў, але і ў мяккасці нашага заканадаўства. Бедная дзяржава ў сваёй калысцы люляе 40.000 дзяцей-сіротаў, а ў гэты час іх фізічныя бацькі п'юць, гуляюць і пладзяць новых дзяцей-сіротаў. Калі дзіця адымаюць ад бацькоў у дзяржаўную ўстанову, то яны павінны плаціць дзяржаве дзве мінімальныя зарплаты. А калі бацькі нідзе не працуюць, то яны нават і гэтага не плацяць. Такіх бацькоў трэба прымушаць да працы, каб яны аплачвалі тыя сродкі, якія дзяржава вылучае на ўтрыманне іх жа дзяцей. Я назаўсёды запомніў словы адной дзяўчынкі, выпускніцы інтэрната, якая сказала мне: «Дзякуй Богу, што маці мяне кінула!» Мне думаецца, гэтая фраза – прысуд усім мацяркам, якія кідаюць сваіх родных дзяцей.

***— Ці клапоціцца неяк Беларускі дзіцячы фонд аб гэтых няшчасных?***

— Зараз мы распачынаем гуманную ініцыятыву «Добрае сэрца». Мы адшукваем людзей, якія маглі б стаць часовымі мамамі, татамі альбо старэйшымі сябрамі для дзяцей-сіротаў, што трапляюць у бальніцы. Для іх там асабліва патрэбная чуласць. А калі казаць увогуле, то ўжо пяць разоў мы збіралі ў санаторыі «Світанак» пад Ракавым таленавітых дзяцей-сіротаў і інвалідаў, два гады падтрымліваем творчы семінар глухіх дзяцей «Фарбы», арганізоўваем выставы іх малюнкаў пад дэвізам «Хто хоча пачуць нас, глядзіце». Нядаўна я прыехаў з Івянецкага дома-інтэрната, дзе жывуць дзеці з цяжкімі формамі інваліднасці, ад якіх адмовіліся бацькі. Дзеці жывуць паўнакроўным жыццём, разам вучацца перамагаць хваробы. У гаспадарцы інтэрната сад, аранжарэя, іпадром, басейн, швейная, сталярная, керамічная майстэрні. Івянецкі вопыт вучыць — ніколі не трэба страчваць сваю надзею і веру! Нельга войкаць, варта сказаць сабе, сваім дзецям: я прыйшоў у гэты свет, каб з годнасцю жыць, каб радавацца кожнаму новаму дню! ■



РАКУРС

# Лятайце самалётамі, калі маеце грошы

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

**Калі вы апошні раз лялі на самалёце на адпачынак ці па справах за свой кошт?**

Варта ведаць, што пералёт ад Мінска да Масквы, які зойме ў вас крыху больш за гадзіну, будзе каштаваць 52 тысячы рублёў? Тады як праезд у купэ самага «шыкоўнага» цягніка Мінск-Масква №2 даўжынёй у ноч станецца вам толькі ў 13.900.

Як паведаміў намеснік старшыні дзяржаўнага камітэта па авіяцыі Васіль Ермакоў, у Беларусі на сёняшні дзень існуе 8 авіякампаніяў, у працэсе рэгістрацыі – дзевятая. Тры дзяржаўныя – «Белавія», «Гомельавія» і «Трансавіяэкспарт», астатнія – недзяржаўныя. Адна ў Віцебскай вобласці, дзве ў Магілёўскай і дзве ў Мінску. Цікава, што ў Віцебскай вобласці недзяржаўная авіякампанія была створаная пры калгасе імя Суворава (Пастаўскі раён). Яна мае чатыры самалёты АН-2 і займаецца аэрахімічнымі працамі.

Ніводная прыватная кампанія Беларусі не займаецца пасажырскімі перавозкамі – усё толькі сельскагаспадарчымі і іншымі працамі. Такім чынам, «Белавія» фактычна займае манапольнае палажэнне на беларускім рынку авіяперавозчыкаў і таму можа выстаўляць любыя цэны. Кампанія «Гомельавія» ёй не канкурэнт. «Трансавіяэкспарт» займаецца грузавымі перавозкамі 40-тоннымі самалётамі ІЛ-76. Пры гэтым, па словах яе прэзідэнта Алега Рыжыкава, 85% самалётаў «Трансавіяэкспарту» працуюць на Расію, бо ў Беларусі няма патрэбы ў такіх паслугах. Куды танней перавезці грузы па зямлі.

Па словах В.Ермакова, дзяржкамітэт па авіяцыі не супраць, каб у Беларусі з'явіліся прыватныя авіякампаніі, якія б вазілі пасажыраў. Аднак іх «чамусьці» няма. У верасні мінулага года скончыла сваё існаванне кампанія «Тэхавіясэрвіс», якая перавозіла пасажыраў у розных накірунках. Як заявіў Ярмакоў, прычына закрыцця кампаніі – фінансавыя праблемы, бо, маўляў, на рэйсе ў Парыж магло быць толькі 2—5 пасажыраў.

Аднак не бачна больш у Беларусі і расійскай кампаніі «Трансаэра», якая некалькі гадоў таму прапанавала пералёт да Масквы ўсяго за 46 долараў – незалежна ад грамадзянства пасажыраў. «Белавія» бярэ аплату за пералёт у залежнасці ад дзяржаўнай прыналежнасці. Напрыклад, як ужо згадвалася, беларус мусіць заплаціць за авіяквіток да Масквы 52 тысячы рублёў, а небеларус (у тым ліку і расіянін) выкладзе з кішэні ўжо 93 долары.

Чаму «Трансаэра» больш не працуе з Беларуссю? Загадка. Але ствараецца ўражанне, што пэўныя колы ў Беларусі зусім не зацікаўленыя ў такім канкурэнце.

Мы звярнуліся ў мінскія авіякасы, каб даведацца, якія менавіта рэйсы карыстаюцца найбольшай папулярнасцю сярод пасажыраў. Касірка Маргарыта Скачок адназначна адказала, што толькі Масква – гэта пры тым, што «Белавія» выконвае рэйсы ў 27 гарадоў свету. Да таго ж, абсалютная большасць сёняшніх авіяпасажыраў – камандзіраваныя, якія лятаюць на грошы сваіх прадпрыемстваў. Не забудземся, дарэчы, пра вялікую армію чыноўнікаў і дэпутатаў, якія ў моцным інтэграцыйным парыве не могуць адарвацца ад былой «сталіцы іх Радзімы – Масквы» і даволі часта наведваюць белакаменную з візітамі афіцыйнымі і не вельмі.



Яшчэ адзін цікавы факт: шмат хто набывае квіткі ў Мінску для падарожжа падалей, у глыбіню Расіі. Для гэтага трэба даляцець да Масквы, а там перасесці на іншы рэйс. Па сведчанні мінскіх авіякасірак, часцей за ўсё такія пасажыры накіроўваюцца ў нафтавыя рэгіёны Расіі – у Сургут, Наябрск, дзе жыве і працуе шмат этнічных беларусаў, якія аднак маюць расійскае грамадзянства. Дык вось, каб даляцець 750 км ад Мінска да Масквы, ім трэба заплаціць практычна столькі ж грошай, колькі за пералёт ад Масквы да Наябрска.

Генеральны дырэктар «Белавія» Анатоль Гусараў скардзіцца, што авіяпаліва каштуе вельмі дорага. Пачынаючы з лютага мінулага года яго кошт толькі расце і расце. Менавіта таму ў Беларусі няма ўнутраных рэйсаў, хоць практычна ўсе абласныя аэрапорты гатовыя прымаць самалёты з беларускай сталіцы. Яго падтрымлівае і В.Ермакоў: «Гэта не тэхнічная праблема!» Сапраўды, яшчэ летась з вялікай помпай было аб'яўлена аб пачатку рэгулярных авіярэйсаў па маршруце Мінск-Гродна-Мінск, і кошт квіткоў быў не самы высокі – 3 недэнамінаваныя мільёны (на той момант – каля 8 долараў). Аднак ніводнага рэйсу так і не адбылося.

На фоне аптымістычных заяваў кіраўніцтва «Белавія», што за першы квартал гэтага года яны на 10% палепшылі свае вынікі працы, застаецца адно простае пытанне: хто ў нас будзе лятаць самалётамі? Крутыя бізнесмены, дзяржаўныя чыноўнікі, няўлоўныя бандыты? ■

Галоўны рэдактар
Павел ЖУК

© НАША СВАБОДА. Спасылка на газету НАША СВАБОДА абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі
Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1289. Выдаецца з 25 лютага 2000 г. Заснавальнік Зміцер Жук.
Выдавец – рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА. E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» (г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 1764 Нумар падпісаны ў друк 13/04/2000 (15:00) Наклад – 7.730